№18 студзень 2000

Свабода, справядлівасць, салідарнасць




# ГРАМАДА

Інфармацыйны бюлетэнь Гродзенскай грамадскай арганізацыі "МАЛАДАЯ ГРАМАДА"

## Антыфашысты ў дзеянні...

Гучныя інцыдэнты апошняга часу звязаны ў тым ліку і з дзейнасцю фашыстоўскага кшталту арганізацый на Беларусі і ў Гродне ў тым ліку. Апаскі асацыіруюцца пераважна з забароненым на тэрыторыі Расіі і квітнеючым на нашай Радзіме Рускім Нацыянальным Адзінствам (РНЕ).



Антыфашыстоўскі рух ажыўся ва ўсім свеце. У Гродне, як ужо паведамлялася, дзейнічае антыфашыстоўскі моладзевы цэнтр (АМЦ), сябрамі якога з'яўляюцца некалькі грамадскіх арганізацый. На сённяшні дзень ідзе актыўная праца з аналагічнымі цэнтрамі па ўсім свеце. Перш за ўсё гэта — інфармацыйны абмен. Фашыстоўскія вылазкі адбываюцца пастаянна. Пра такія "падзеі" трэба ведаць усім. Усімі магчымымі сродкамі трэба выбіваць глебу з-пад ног ультра-нацыяналістаў.

Пэўныя поспехі такога супрацоўніцтва ўжо ёсць: падтрымліваецца сталая сувязь з арганізацыямі Польшчы, Галандыі. АМЦ ўключаны ў сусветны рэестр антыфашыстоўскіх арганізацый.

Уся праца яшчэ наперадзе, таму любая зацікаўленая асоба можа скантактавацца з АМЦ па пошце звычайнай **230003, Гродна-3, а/с 110** або электроннай **bunt.hrodna@usa.net**. Далучайцеся!

Інтэрнэт апошнім часам нават у Беларусі заваёўвае свае пазіцыі, таму для пачатку прапануем адрасы сайтаў антыфашыстоўскіх цэнтраў Польшчы і Расіі. Упэўнены, вы будзеце здзіўлены і ўражаны.

Польшча: **www.zigzag.pl/rafalpan**

Расія: **www.antifa.cjb.net**

Раздавім фашысцкую гадзіну!

*Сябры АМЦ*

## Сустрэча з камбатантамі

Слова "камбатант" у беларускае ды польскае мовах азначае "удзельнік змагарнага руху".

Менавіта з гэтымі людзьмі адбылася сустрэча ў Горадні 16 студзеня 2000 году. На гэтай сустрэчы прысутнічалі сябры Саюзу Беларускай Моладзі, Саюзу Беларускіх Патрыётаў, Наваградзкага швадрону, Саюзу Змаганьня за Незалежнасьць, Беларускай Краёвай Абароны.

Гэтае спатканьне было арганізаванае Гарадзенскай філіяй БСДГ з удзелам моладзевай спартова-патрыятычнай арганізацыі "Край" пры падтрымцы Гарадзенскага аддзяленьня Фонду імя Сапегі.

Першыя спробы сабраць гэтых людзей (а менавіта сяброў СБМ) адбываліся яшчэ ў 1993 годзе. Але сёлетняя сустрэча адрозьнівалася большай колькасьцю запрошаных ды добраю арганізацыяй. Сустрэча распачалася гімнам "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" у выкананьні хору "Бацькаўшчына", падчас якога быў унесены сьцяг БНР.

Першым выступоўцам быў Зьміцер Кісель, бацька якога Уладзімер Кісель не дажыў да гэтае сустрэчы некалькі месяцаў.

Асобу Уладзімера Кіселя ведаюць ў Беларусі шмат людзей. Удзельнік Саюзу Змаганьня за Незалежнасьць Беларусі прайшоў савецкія канцлагеры ў Джэзказгане, Кенгіры, турму ў Горадні.

Далей гістарычныя асьпекты аб пераемнасьці пакаленьняў давёў Аўген Калубовіч.

Сваімі ўспамінамі дзяліліся ветэраны-камбатанты. Асабліва надхнялі словы Міколы Канаша, які быў сябрам Ларысы Геніюш. Ён прачытаў нават невядомы верш паэткі.

Культурнай часткай сустрэчы быў выступ дзіцячага фальклёрнага калектыву "Дударыкі" пад кіраўніцтвам Яўгена Петрашэвіча, сьпяваў вядомы бард Андрэй Мельнікаў.

Гэтая сустрэча таксама была патрэбна і для моладзі, якой ў зале Гарадзенскага БНФ было шмат. Прадстаўнікі шматлікіх апазіцыйных моладзевых арганізацыяў з імпэтам слухалі кожнае аптымістычнае слова сваіх "бацькоў і дзядоў". Таксама можна было пабачыць спецыяльна прыгатаваную да гэтае сустрэчы слонімцам Сяргеем Яршом газэту "Голас камбатанта". Ёсьць спадзяваньні, што такіх сустрэч будзе яшчэ шмат.

*Андрэй Мялешка*

## Перарэгістрацыя...

Што б ні гаварыла сучасная ўлада пра дэмакратычнасць развіцця Беларусі, але абсалютная большасць фактаў з нашага жыцця сведчыць зусім пра іншае.

Прайшла дзяржаўная чыстка пад назвай "перарэгітсрацыя" грамадскіх аб'яднанняў. Як вядома, не ўсе здолелі выжыць. Аднак нават тыя арганізацыі (пераважна агульнарэспубліканскія), каторыя ўсё ж здолелі застацца ў прававым полі далёка неправавой дзяржавы, сутыкнуліся са значнымі складанасцямі па перарэгістрацыі рэгіянальных арганізацый.

Мяркуйце самі: у 1997 годзе для пастаноўкі на ўлік гарадской грамадскай арганізацыі спатрэбілася ўсяго толькі 2 дні. Большасць папераў можна было напісаць ў прысутнасці юрыстаў гарвыканкама ад рукі. І справа, як гаворыцца, у капялюшы. У 2000 годзе змянілася як не ўсё, то шмат чаго. Па-першае, юрыдычны аддзел не працуе ўжо наўпрост з насельніцтвам: усе паперы павінны прайсці праз рэгістрацыю ў агульным аддзеле. Пасля гэтага для перарэгістрацыі (чытай перапастаноўкі на ўлік) неабходна ўсяго (!?) 30 дзён. Прычым, калі нешта недакладна, то паперы вяртаюцца, і новы месячны тэрмін чыноўнік чарговы раз "разглядае". Цікава, праўда, што. Да таго ж аддзел па прыватызацыі на працягу ўсё таго ж тэрміну "правярае" правамоцнасць выкарыстання юрыдычнага адрасу арганізацыі. Выбачайце, калі арганізацыя мела афіцыйны юрыдычны адрас, занатаваны ў тым жа гарвыканкаме, працавала публічна ўвесь гэты час, навошта ўвесь гэты клопат. Сітуацыя нагадвае становішча інвалідаў, якім прыходзіцца перыядычна "падмацоўваць" сваю інвалідную групу. Хіба што ў бязногага раптам вырасце нага. Смешна і горка адначасова...



Хутчэй за ўсё, рэчы робяцца па інструкцыях, каторыя дакладна вызначаюць, каго і як доўга рэгістраваць, цалкам ганьбуючы правы ўжо зарэгістраваных у мінюсце арганізацый на спрыянне пры фармальнай пастаноўцы на ўлік у рэгіёнах.

Застаецца толькі спадзявацца на саміх сябе сёння, а таксама на свае магчымасці ў перспектыве змяніць абсурдныя перашкоды па развіццю недзяржаўнага сектара на Беларусі.

*Юзік і Казік*

# Закон, прыватная ўласнасьць ды арыентацыя на Захад

Менавіта такой бачаць гарадзенцы Беларусь у бліжэйшай будучыні.

Калі праглядаеш дадзеныя розных сацыялагічных дасьледваньняў, пачынаеш разумець, чаму на Гарадзеншчыне падчас першых прэзідэнцкіх выбараў былі раёны, дзе за Лукашэнку прагаласавала толькі 15–16 адсоткаў выбаршчыкаў. У той час, як за Пазьняка — 38–40 адсоткаў. Становіцца і зразумелым тое, чаму кандыдаты ў дэпутаты ад апазіцыі амаль паўсюдна ў Гародні займалі першыя месцы, і лукашэнкаўскія рэферэндумы правальваліся ў нас ледзь не з трэскам. А сёлетнія палітычныя акцыі зьбіралі значную нават па беларускіх мерках колькасьць удзельнікаў, мелі вялікі розгалас і прыносілі багата дывідэнтаў. Гарадзенцы заўсёды стаялі на дэмакратычных пазіцыях, былі прагрэсіўнымі ў нацыянальным плане і глядзелі не ў бок Масквы, а, хутчэй, сабе пад ногі.

На пераломе эпох, калі першая лічба года зьмяняецца з адзінкі на двойку, варта зрабіць пэўныя падсумаваньні і даць невялічкі зрэз каштоўнасьцей, зь якімі гарадзенцы хочуць увайсьці ў наступнае тысячагоддзе.

У сярэдзіне 1999 годзе Нацыянальны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледваньняў правёў агульнабеларускае апытаньне, у якім прынялі ўдзел і жыхары Гародні ды вобласьці.

На пытаньне, якая форма ўласнасьці, на ваш погляд, найбольш эфектыўная, 59% прадстаўнікоў Гарадзеншчыны адказалі — прыватная (глядзі табліцу №1).

Як бачым, большасьць гарадзенцаў — уласнікі. Зразумела, што ў гэтым значную ролю адыгрывае блізкасьць польскае ды летувіскае мяжы. Як памятаем, у далукашэнкаўскія часы каля 70% гарадзенцаў жыло з гандлю, мелі добрыя грошы, плацілі пэўныя падаткі, спакойна гадавалі дзяцей і хацелі толькі аднаго, каб дзяржава ім не перашкаджала. А цяпер, калі Лукашэнка падгроб амаль усё пад сябе, большасьць жыве альбо старымі запасамі, альбо перабіваецца дзе з чаго і атрымоўвае “датацыі” на дзетак.

*Таб.1. Якая форма ўласнасьці, на ваш погляд, найбольш эфектыўная?*

| Форма ўласнасьці | Менск | Менская вобласьць | Берасьце і вобласьць | Гародня і вобласьць | Віцебск і вобласьць | Магілёў і вобласьць | Гомель і вобласьць |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Прыватная | 63,4 | 53,5 | 54,7 | 59,0 | 44,3 | 44,5 | 37,3 |
| Дзяржаўная | 30,0 | 42,0 | 34,0 | 33,2 | 46,5 | 47,3 | 52,8 |
| Іншая | 5,6 | 4,5 | 9,2 | 7,5 | 7,5 | 6,8 | 8,7 |

*Таб.2. Якія прынцыпы парушаюцца ў Беларусі?*

| Прынцыпы | Менск | Менская вобласьць | Берасьце і вобласьць | Гародня і вобласьць | Віцебск і вобласьць | Магілёў і вобласьць | Гомель і вобласьць |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| законнасьці і правапарадку | 27,1 | 37,0 | 33,0 | 30,7 | 30,1 | 18,3 | 18,0 |
| роўнасьць усіх перад законам | 50,2 | 43,9 | 45,8 | 50,3 | 46,1 | 39,2 | 36,4 |
| павага і абарона правоў чалавека | 44,2 | 41,5 | 38,8 | 43,1 | 34,1 | 32,8 | 28,0 |
| падзел улады на заканадаўчую, выканаўчую і судовую ды іх незалежнасьць адна ад адной | 23,0 | 27,8 | 25,4 | 29,4 | 14,7 | 17,0 | 12,9 |
| кантроль за дзейнасьцю дзяржаўных ворганаў з боку грамадства | 44,1 | 48,5 | 40,1 | 47,6 | 24,3 | 22,6 | 31,5 |

Таму, калі сённяшняя ўлада будзе кіраваць дзяржавай, 41 адсотак гарадзенцаў (а гэта самы вялікі паказчык у Беларусі) упэўненыя, што жыцьцё будзе няспынна пагаршацца.

Аднак 12,6% гарадзенцаў усё яшчэ гатовыя трываць Лукашэнку да 2001 года. У іншых абласьцях такіх людзей значна больш — у Менскай — 27,2%, у Гомельскай — 22,1%.

Затое 36,1% гарадзенцаў (больш толькі ў Менску — 36,6) упэўнены, што новыя прэзідэнцкія выбары павінны былі адбыцца ў 1999 годзе. Чым жа нас так не задавальняе сістэма ўлады, якую пабудаваў А. Лукашэнка? Тут вельмі характэрныя адказы на пытаньне: “Якія прынцыпы парушаюцца ў Беларусі?”

Як бачым, шмат што незадавальняе гарадзенцаў. На спрадвечнае пытаньне — што рабіць? — яны адказваюць наступным чынам: 22,7% гарадзенцаў (самы вялікі працэнт у Беларусі) упэўнены, што ніякіх перамоваў з уладай, якая парушае законы і правы чалавека, весьці нельга. Трэба проста прымусіць яе выконваць закон (вось адкуль ідзе актыўны ўдзел гарадзенцаў у масавых акцыях). І ўсё ж 37,1% лічаць, што перамовы неабходны, толькі шляхам пераміоваў можна прыйсьці да згоды ў грамадстве.

Вельмі цікавае стаўленьне гарадзенцаў да разнастайных формаў інтэграцыі. 52,2% (і зноў такі самы вялікі працэнт у Беларусі) лічаць, што Беларусь павінна ўвасьці ў валютны і мытны саюз з краінамі Захаду. 47,9% гатовыя супрацоўнічаць з Захадам па пытаньнях культуры і абароны правоў чалавека. А вось у НАТО гарадзенцаў не цягне — толькі 6,7% за ваенна-палітычнае супрацоўніцтва.

Такім чынам, можна зрабіць пэўныя высновы — у бліжэйшай будучыні гарадзенцы хочуць бачыць Беларусь дзяржавай, дзе паважаюць правы чалавека, дзе галоўнай сілай з'яўляецца закон, перад якім усе роўныя. А калі ўлада не прытрымліваецца гэтых прынцыпаў, то яе трэба знішчаць. Адным з асноўных паказчыкаў свабоды гарадзенцы бачаць прыватную ўласнасьць. А ў геапалітычным плане, арыентацыя не на крымінальную, галодную і антыдэмакратычную Расею, а на заможны і квітнеючы Захад.

***Падрыхтаваў Антось Клёк***

## Лекцыя па прастытуцыі ад Аляксандра Пагуляева

У канцы студзеня абласная арганізацыя Аб'яднанай Грамадзянскай Партыі (АГП) распаўсюдзіла цікавае інфармацыйнае паведамленне. Паводле яго 31 студзеня 2000 года ў партыю былі прынятыя 21 жыхар Гродна. Гэта, безумоўна, вялікі партыйны поспех. Здабыць у наш час, выключна неспрыяльны для выказвання сваіх палітычных поглядаў ды вядзення палітычнай дзейнасці, 21 (“ачко”!) прыхільніка — гэтаму можна толькі пазайздросціць ды папляскаць у далоні. Але ці варта?

Справа вось у чым. У спісе гэтага “ачка”, прынятага ў АГП, мы знайшлі некалькі знаёмых прозвішчаў. І адно з іх нас зацікавіла, ну, проста неверагодна. Увага!!! Сябрам ліберальнай (!) Аб'яднанай Грамадзянскай партыі стаў “выбітны кулуарны змагар за незалежнасць і дэмакратыю”... Аляксандр Пагуляеў. Для неабазнаных кароценькая даведка. Колькі гадоў таму тады яшчэ таварыш Пагуляеў быў адным з кіраўнікоў Гарадзенскай філіі Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай (!) Партыі. А да апошняга часу ўзначальваў (магчыма, да гэтага часу ўзначальвае) зноў-такі сацыял-дэмакратычную моладзевую арганізацыю “Наша Салідарнасць”. Вось дзе вышэйшы пілатаж палітычнай прастытуцыі.

Мы, вядома ж, разумеем, што сваіх поглядаў не змяняюць толькі нябожчыкі. Але ж не так радыкальна!? Што здарылася, Саша? Учора — сацыялізм, сёння — лібералізм, а заўтра што, няўжо лукашызм?

Май гонар, Саша.

***Уладзімір Ульянаў-Ленін***




# IUSY
# Фестываль 2000
# “Сіла салідарнасці”




*IUSY — гэта Міжнародны Саюз Сацыялістычнай Моладзі — сусветны моладзевы рух, яднае дэмакратычна-сацыялістычныя, сацыял-дэмакратычныя і рабочыя арганізацыі больш чым са 100 краінаў свету. З дня заснавання у 1907 годзе* ***IUSY*** *змагаецца за свабоду, дэмакратыю, справядлівасць і салідарнасць. Тысячы людзей сустракаюцца падчас фестываляў* ***IUSY*** *для дыскусій, абмену ідэямі і досведам, і, канешне, для сумеснага незабывальнага адпачынку.*

Гэты фестываль (рэгулярна праводзіцца з 20-х гадоў XX стагоддзя) — сустрэча маладых людзей, каторыя аб'ядналы адзінай ідэяй змагання. Маладыя людзі, якія адстойваюць дэмакратыю, свабоду, справядлівасць ва ўсіх кутках свету. Моладзь, якая верыць у сілу салідарнасці, а таксама ў салідарнасць, каторая можа змяніць свет.

**Быць натхнёнымі — быць разам**

**IUSY** фестываль — гэта шанец навучыцца, атрымаць натхненне. У ім будуць канферэнцыі, семінары і трэнінгі па тэмах ад фемінізму да правоў чалавека і праблем глабалізацыі. Ты атрымаеш новыя ўражанні, размаўляючы з людзмі з Азіятска-Ціхаакіянскага рэгіёна, Еўропы, Афрыкі, Амерыкі. Магчыма, ты знойдзеш падобны на свой профіль працы, можа не. Прыедзь на Фестываль, адкрый для сябе новы свет!

Удзел у сацыялістычным першынстве Свету па футболе, атрымоўваць асалоду ад канцэртаў зорак шведскай і еўрапейскай сцэны, наведванне “музычных палатак” з каларытам Лацінскай Амерыкі, Афрыкі або іншай часткі свету. Быць з людзьмі з самых аддаленых краінаў у адным са шматлікіх кафэ, або правесці дзень на фестывальным пляжы. Усё гэта можна паспытаць падчас **IUSY** фестывалю 2000.




У гэтым фестывалі чакаецца ўдзел больш за 5000 маладых людзей пад лозунгам “Сіла Салідарнасці”.

**IUSY** Фестываль 2000 прымае Сацыял-дэмакратычная моладзь Швецыі **SSU**. Арганізацыя з'яўляецца моладзевай Сацыял-дэмакратычнай партыі Швецыі, якая знаходзіцца ва ўрадзе краіны. З 23000 сяброў **SSU** з'яўляецца найбуйнейшай моладзевай палітычнай арганізацыяй Швецыі.

**Дзе гэта?**

Фестываль будзе праходзіць у горадзе Мальмё, на поўдні Швецыі. Тэрыторыя фестывалю — пляж, які знаходзіцца вельмі блізка ад цэнтру горада, а таксама ў 30 хвілінах ад сталіцы Даніі — Капенгагена.

**Як дабрацца?**

Два міжнародныя аэрапорты ў 30 хвілінах ад Фестывалю — Kastrup у Капенгагене і Sturup у Мальмё. Можна лёгка дабрацца таксама на аўтобусе, цягніку ці машыне. Адзін з самых вялікіх мастоў у свеце звязвае Мальмё з Даніяй і астатняй Еўропай.

Кантактуйце з арганізацыямі-сябрамі **IUSY** у вашай краіне (у Беларусі — “Маладая Грамада”, адрас для карэспандэнцыі — рэдакцыйны) за дэтальнай інфармацыяй. Можна наведаць старонку фестывалю і ў Інтэрнэце: ***www.iusy.org***

**Калі?**

З 24 па 30 ліпеня 2000 года.

**Для удзелу**

Звязвайцеся з арганізацыямі-сябрамі **IUSY** у вашай краіне. Аргкамітэт не прымае індывідуальных заяваў. Плата за ўдзел — 60 EURO. Для арганізацый з Заходняй Еўропы — 120. Унёсак пакрывае доступ да ўсіх мерапрыемстваў фестывалю, пражыванне ў палатках, двухразовае харчаванне.

Свае прапановы па праграме дасылай на адрас: ***iusy@iusy.org***

Наведай Інтэрнэтаўскі сайт ***www.iusy.org/festival***

або патэлефануй ***+46-8-714 48 48***

# Слуцкія паясы

***Ад родных ніў, ад роднай хаты***
***У панскі двор дзеля красы***
***Яны, бяздольныя, узяты***
***Ткаць залатыя паясы.***
***І цягам доўгія часіны,***
***Дзявочыя забыўшы сны,***
***Свае шырокія тканіны***
***На лад персідскі ткуць яны.***

Верш “Слуцкія ткачыхі” быў напісаны Максімам Багдановічам у 1912 годзе, пасля таго як у Вільні ён убачыў старажытныя слуцкія паясы, прыгожыя, шырокія, у некалькі колераў, затканыя залатымі ніткамі багатыя тканіны. Да таго ж і каштавалі яны вельмі дорага.

Сусветную славу мела прадукцыя Слуцкай персіярні-мануфактуры, дзе ствараліся паясы. Шырокі шаўковы пояс насілі багатыя людзі, ён быў неабходнай часткай магнацкага і шляхецкага касцюма. У якасці ўзору для слуцкіх паясоў паслужылі вырабы, якія ў вялікай колькасці прывозіліся на Беларусь з Малой Азіі, Сірыі, Персіі (адсюль назва майстэрань — “персіярні”). Першая персіярня на тэрыторыі Беларусі ўзнікла ў Нясвіжы, адкуль яна па загаду Міхала Казіміра Радзівіла ў 1750-х гадах была перанесена ў Слуцк. Для кіраўніцтва вытворчасцю туды запрасілі вядомага майстра Яна Маджарскага.



Дзейнасць слуцкай персіярні працягвалася да 1844 года, калі адпала патрэба ў выпуску паясоў.

У класічным варыянце слуцкі пояс — двухбаковы, чатырохліцавы. Ён складаўся з сярэдніка з аблямоўкай і двух канцоў з махрамі. Сярэднік арнаментаваўся папярэчнымі гладкімі ці ўзорыстымі палосамі, радзей сеткаваным узорам ці ў гарошак. Канцы пояса ўпрыгожваліся авалам з лістоў, кветак і сцяблоў, кветак на доўгім сцябле з галінкамі, букетамі кветак. Даволі пашыранымі былі так званыя літыя паясы. Выкарыстоўванне залатой ніці, якая клалася няроўна, надавала вырабу шурпатую, матавую паверхню. Таму гатовы пояс пракатвалі праз валы: ніці расплюшчваліся і зліваліся, ствараючы гладкую паверхню.

Захапляючыя ўзоры паясоў, выразнасць малюнка, цудоўныя адценні колераў, багатае аздабленне патрабавалі доўгіх, цяжкіх часін напружанай працы, выключнага народнага ўмельства, тонкага адчування харства.

*Вольга Аскірка*

# Савет Еўропы




***Шаноўныя сябры! Працягваем знаеміць вас з дэмакратычнымі ўстановамі свету. У гэтым нумары - з Саветам Еўропы.***

**Змагаючыся разам за свабоду**

Савет Еўропы — гэта міжнародная арганізацыя са штаб-кватэрай у французкім горадзе Страсбург. Яго галоўная роля — узмацняць дэмакратыю, чалавечыя правы і прынцып закону ва ўсіх краінах, якія з'яўляюцца членамі Савета. Абарона і прапаганда гэтых фундаментальных каштоўнасцяў не з'яўляецца болей унутранай справай для ўлады, а, наадварот, стала сумеснай адказнасцю ўсіх зацікаўленых краінаў.

Савет Еўропы таксама прымае актыўны ўдзел у пашырэнні еўрапейскай культурнай спадчыны ва ўсей яе разнастайнасці.

У заключэнне, Савет дзейнічае як форум для разгляду шырокага колу сацыяльных праблем, такіх як сацыяльнае выключэнне, нецярпімасць, аб'яднанне перасяленцаў, пагроза асабістаму жыццю, пастаўленая сучаснымі тэхналогіямі, біяэтнічныя пытанні, тэрарызм, гандаль наркотыкамі і крымінальныя дзеянні.

**Змяняючыся склад і роля**

Савет Еўропы быў заснаваны дзесяццю краінамі пасля Другой Сусветнай вайны з падпісаннем яго Статуту ў Лондане 5 мая 1949 года. Першыя сорак гадоў свайго жыцця ен заставаўся заходнаеўрапейскім інстытутам. У гэтым дачыненні яго гісторыя адлюстроўвае гісторыю кантынента ў агульным плане. У канцы гэтага перыяду, які адзначыўся вяртаннем некаторых фармальна аўтарытарных краін да напрамку еўрапейскай дэмакратыі, Савет налічваў 23 удзельніка. Ен стварыў значную колькасць пагадненняў стандартаў і пагадненняў па супрацоўніцтву. У час вялікай стабільнасці ў Еўропе палітычная роля Савета была даволі сціплай.

З 1989 году Савет Еўропы стаў галоўным палітычным фокусам для супрацоўніцтва з краінамі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, паколькі і калі яны выбралі дэмакратычную форму ўлады. Зараз у Савеце 43 удзельніка. Савету была нададзена павялічаная роля Венскай сустрэчай на вышэйшым узроўні ў кастрычніку 1993, дзе краіны-удзельнікі прызналі, як важна было для бяспекі і стабільнасці ў Еўропе, што ўсе яе краіны павінны прыняць прынцыпы дэмакратыі, чалавечых правоў і верхавенства закону. Пад уплывам агульнага турбавання аб дэмакратычнай бяспецы Савет Еўропы склаў шэраг агульных прынцыпаў, кіруючых абаронай нацыянальных меншасцяў, актыўна падтрымліваў працэс дэмакратычнага пераўтварэння і замацаваў свой механізм для назірання павагі краін-удзельнікаў да іх абавязкаў. Сустрэча на вышэйшым узроўні ў Страсбургу ў кастрычніку 1997 замацавала новыя прыярытэты для намаганняў па супрацоўніцтву, якія прынясуць карысць 800 мільенам еўрапейцаў. Выхоўваць сацыяльнае яднанне і абараняць бяспеку грамадзян больш эфектыўна — вось два галоўныя значэнні. Іншыя ўключаюць у сябе прапаганду чалавечых правоў — заснаванне адзінага пастаяннага Суда 1 лістапада 1998 года было важнай часткай гэтага — узмацненне дэмакратыі і адказ на галоўныя культурныя і адукацыйныя праблемы, з якімі сутыкнулася сення Еўропа.



**Савет Еўропы сярод еўрапейскіх устаноў**

Савет Еўропы быў першай міжнароднай арганізацыяй, заснаванай у Еўропе пасля Другой Сусветнай вайны, але з таго часу да яго далучыліся шмат іншых інстытутаў. Наколькі магчыма, іх дзейнасць дапаўняе і ўзаемна узмацняе адзін аднаго. Галоўныя арганізацыі, з каторымі Савету неабходна працаваць сумесна, — Еўрапейскі Саюз і Арганізацыя па Бяспецы і Супрацоўніцтву ў Еўропе (АБСЕ).



У Палаце Сабрання Савета таксама праводзяцца сесіі Еўрапейскага Парламенту. На самой справе, Савет Еўропы і Еўрапейская Супольнасць (вядомая як Еўрапейскі Саюз для таго, каб падкрэсліць сваю палітычную і эканамічную ролю) з'яўляюцца зусім рознымі ўстановамі, нягледзячы на тое, што пятнаццать членаў Саюза — таксама частка Савета Еўропы, дзе яны гуляюць асноўную ролю.

АБСЕ ўключае ў сябе ўсе краіны-члены Савета Еўропы, Злучаныя Штаты, Канаду і азіятскія рэспублікі, якія фармальна былі часткай старога Савецкага Саюзу. Галоўная вобласць дзеяння АБСЕ — папераджальная дыпламатыя, нягледзячы на тое, што яна мае дачыненне да функцыянавання дэмакратыі і грамадскіх рэформ.

Рэгулярныя кантакты на высокім узроўні і нават агульныя праграмы з адным ці другім з гэтых інстытутаў сталі стандартнай практыкай.

**Як дзейнічае Савет Еўропы?**

Савет Еўропы складаецца з:

· органа прымання рашэнняў: Камітэту Міністраў;

· дарадчага органа: Парламенцкага Сходу;

· голасу мясцовай дэмакратыі: Кангрэсу Мясцовай і Абласной Улады Еўропы.

Кожны з гэтых трох органаў, чые функцыі сцісла апісаны ніжэй, мае свой Інтэрнэт-сайт.

У выключных выпадках палітычным імпульсам для арганізацыі можа стаць сустрэча на вышэйшым узроўні кіраўнікоў і ўлады краін-удзельнікаў. Гэта здарылася на сустрэчы ў Вене ў 1993 і ў Страсбургу ў 1997 годзе.

Розным органам дапамагае Міжнародны Сакратарыят, які прыкладна складаецца з 1500 чыноўнікаў з усіх краін-удзельнікаў. Яны ўзначалены Генеральным Сакратаром, які выбіраецца Парламенцкім Сходам на пяць гадоў.

**· Камітэт Міністраў**

Камітэт Міністраў складаецца з Міністраў замежных спраў 41 краіны-удзельніка. Яны збіраюцца двойчы ў год, каб правесці звычайныя паседжанні, спецыяльныя або інфармацыйныя сустрэчы. Старшыня Камітэту Міністраў змяняецца кожныя шэсць месяцаў згодна з алфавітным спісам краін-членаў.

Дэлегаты Міністраў збіраюцца не радзей, чым раз на месяц. Яны складаюць праграму дзейнасці Савета і прымаюць бюджэт, складаючы на сення каля 1 300 мільенаў французкіх франкаў. Яны таксама вырашаюць далейшы лес прапаноў Парламенцкага Сходу, Кангрэсу Мясцовай і Абласной Улады і канферэнцый міністэрскіх спецыялістаў, якія Савет Еўропы рэгулярна праводзіць.

**· Парламенцкі Сход**

Парламенцкі Сход Савета Еўропы складаецца з 286 прадстаўнікоў і такой жа лічбы намеснікаў з парламентаў краін-удзельнікаў.

***(працяг на наступнай старонцы)***

*(працяг, пачатак на староныцы № 4)*

Склад кожнай дэлегацыі адлюстроўвае склад яе парламенту.

Парламенцкі Сход праводзіць чатыры пленарных паседжання ў год. Яго дэбаты па шырокаму колу сацыяльных пытанняў і рэкамендацыі Камітэту Міністраў стаяць у каранях шматлікіх дасягненняў Савета Еўропы.

Парламенцкі Сход заснаваў статус спецыяльнага госця, які дае Сходу права прымаць прадстаўнікоў парламентаў краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, якія не з'яўляюцца членамі Савета, пракладаючы шлях да магчымага ўступання гэтых краін.

Сход грае галоўную ролю ў працэсе ўключэння і ў дасягненні згоды з патрабаваннямі для новых краін.

**· Кангрэс Мясцовай і Абласной Улады Еўропы**

Кангрэс Мясцовай і Абласной Улады Еўропы, як і Парламенцкі Сход, мае 286 прадстаўнікоў і 286 намеснікаў. Ен складаецца з дзьвюх палат, прадстаўляючых мясцовыя і абласныя ўлады. Яго функцыя — узмацняць дэмакратычныя ўстановы на мясцовым узроўні і, у прыватнасці, садзейнічаць новым дэмакратычным партыям.

**Практычныя дзеянні і рэальныя вынікі**

Савет Еўропы мае намер узгадніць палітыку краін-удзельнікаў і падтрымаць прынцыпе агульных дзеянняў і стандартаў. Каб дасягнуць гэтага, ен збірае на розных узроўнях парламентарыяў, міністраў, урадавых экспертаў, мясцовых і абласных дэпутатаў, прадстаўнікоў моладзевага руху і міжнародных неўрадавых арганізацый, такім чынам давая ім магчымасць падзяліцца ведамі і вопытам.

Больш чым 160 канвенцый — эквівалент болей чым 10 000 двухбаковых дагавораў — служаць асновай для рэфармавання і ўзгаднення законаў краін-ўдзельнікаў па такіх розных праблемах, як абарона кампутарных дадзеных, насілле гледачоў на спартыўных мерапрыемствах, захаванне навакольнага асяроддзя, сродкі інфармацыі, культурнае садзейнічанне, прадухіленне катаванняў і абарона меньшасцяў.

Па пытаннях, якія не могуць прывесці да канвенцый, камітэт Міністраў прымае рэкамендацыі для ўрадаў, якой лініі дзеянняў трымацца.



Савет Еўропы заснаваў таксама шэраг уладаў і ўстаноўчых апаратаў, з'явіўшыхся пасля яго міжнародных перамоў. Еўрапейскі Суд Чалавечых Праваў — найбольш яскравы прыклад.

Наступнае заслугоўвае асабістага разгляду:

***Еўрапейская Канвенцыя Чалавечых Праваў*** прызначана для абароны асноўных індывідуальных правоў і свабод.

***Еўрапейская Сацыяльная Хартыя*** прывяла да легальных рэформаў у такіх галінах, як сям'я, абарона маладых працоўных, правы прафсаюзаў і сацыяльнае страхаванне. Яна апісвае 23 асноўныя правы.

***Канвенцыя па Прадухіленню Катаванняў*** дазваляе незалежнаму камітэту права рабіць візіты без аб'явы ў месцы затрымання па ўсей Еўропе.

***Еўрапейская Культурная Кавенцыя*** фармуе аснову для міжурадавага ўзаемадзеяння ў галіне адукацыі, культуры, еўрапейскай спадчыны, спартыўных і моладзевых дзеянняў.

**Прыярытэты для супрацоўніцтва**

Дзеянні Савета Еўропы маюць уплыў на ўсе аспекты жыцця яго грамадзян. Яго праграма дзеянняў трымаецца на рашаючых сацыяльных пытаннях:

- ***Чалавечыя Правы***: пашырэнне гарантый Еўрапейскай Канвенцыі па Чалавечых Правах;
- ***сродкі інфармацыі і камунікацыі***: падтрымка свабоды выразу і свабодны рух інфармацыі;
- ***сацыяльныя і эканамічныя пытанні***: заснаванне напрамку дасягнення большай сацыяльнай справядлівасці і лепшай абароны найбольш слабых членаў грамадства;
- ***адукацыя***: перадача дэмакратычных каштоўнасцяў маладым людзям і іх падрыхтоўка да жыцця ў мультымоўнай і мультыкультурнай Еўропе;
- ***культура і спадчына***: развіцце еўрапейскай сапраўднасці і стаўленне палітыкі абароны спадчыны;
- ***спорт***: развіцце спорту для ўсіх і стаўленне строгіх этычных прынцыпаў;
- ***асяроддзе***: дапамога абараняць натуральнае асяроддзе і арганізацыя інфармацыйных кампаній, такіх як "1995: Еўрапейскі Год Захавання Прыроды";
- ***мясцовыя і абласныя ўлады***: узмацненне дэмакратычнага працэсу і арганізацыя мясцовага і абласнога супрацоўніцтва;
- ***юрыдычныя праблемы***: мадэрнізацыя і ўзгадненне нацыянальнага заканадаўства (барацьба з карупцыяй, закон аб нацыянальнасці);

**Кампанія Савета Еўропы супраць нецярпімасці**

Савет Еўропы склаў план дзеяння для барацьбы з расізмам, ксенафобіяй, анты-семітызмам і нецярпімасцю. Мэта — зрабіць моладзь абаронцамі і змагарамі за адкрытае і талерантнае грамадства.

**50-я гадавіна**

5 мая 1999 года Савет Еўропы адзначаў 50-годдзе. Цяпер практычна кожная еўрапейская краіна знаходзіцца ў яго дэмакратычным зроку. На світанні трэцяга тысячагоддзя будзе магчымасць падцвердзіць, што мандат Савета трымаецца добра, і даць новы імпульс яго дзеянням.

Падрыхтавана па матэрыялах Савета Еўропы (**www.coe.fr**).

*Леанід Вішнеўскі*



# Моладзь у палітыцы

Гучыць экзатычна, ці не так? У першую чаргу гэта тычыцца Беларусі. Па вялікаму рахунку ў "палітыцы" ў нас толькі дзяржчыноўнікі, якія паслядоўна вызначаюць НАШ з вамі лёс. Прычым вызначаюць на свой капыл, па свайму разуменню або па загадзе правадыра ўсіх славян. Дэмакратычных традыцый, як вядома, у нас няма, але дагэтуль лічыцца, што гэта не лёсавызначальна. На маю думку, ніякіх зрухаў насустрач "цывілізаванаму свету" пры такім раскладзе "палітычнай сцэны" у бліжэйшай будучыні не прадбачыцца. Загартаваныя камуністычнымі будоўлямі, камсамольскімі з'ездамі, марамі пра мінулы дабрабыт, "палітычная эліта" дакладна не здолее заснаваць нармальную сістэму, пры якой незалежна ад кіраўніка застаюцца недатыкальнымі прынцыпы падзелу ўлады, выбарнасці кіраўніцтва ўсіх узроўняў, правы чалавека.

Сумна, што моладзь на сёння, бадай, самая пасіўная частка грамадства, і гэтаму ёсць свае тлумачэнні. Не сакрэт, што маладыя людзі цалкам выключаны з грамадскага жыцця. Толькі за ўдзел у санкцыянаваных грамадскіх і палітычных акцыях пацярпела шмат хлопцаў і дзяўчат. Некаторых адлічылі з ВНУ (дарэчы, некалькі такіх ахвяраў — сябры "Маладой Грамады"), з некаторымі "размаўляюць" дэканы, выкладчыкі. Удзел у працы трэцяга сектара (моладзевых грамадскіх арганізацый) таксама караецца. Прыкладаў уціску моладзі за праяўленне асабістых перакананняў шмат па ўсёй Беларусі. Іншыя, гледзячы на "праблемы" калегаў, баяцца, апускаюць рукі, зліваючыся, такім чынам, з натоўпам. Менавіта гэта ТРЭБА нашым сучасным Сусаніным. Таму што толькі актыўная пазіцыя можа пахіснуць устоі, агучыць грамадска значную праблему. Навошта муціць ваду? Галоўнае, каб не было вайны. Дыскусіі, перамовы да, ўвогуле, любая дзея, якая прадугледжвае ўдзел двух бакоў з рознымі меркаваннямі, — непрымальны крок для нашай(?) улады.

Практыка большасці краін свету паказвае, што ўдзел моладзі ў вырашэнні грамадска-палітычных праблем, проста праяўленні актыўнай грамадскай пазіцыі НЕАБХОДНЫ грамадству. Болей за тое, дэмакратычная сістэма сама такім чынам выхоўвае маладых палітыкаў, каторыя ўжо ў самы бліжэйшы час уключаюцца ў кіраўніцтва сваімі дзяржавамі. Для гэтага існуе шырокая сетка разнастайных моладзевых арганізацый (у тым ліку і палітычных), якім спрыяюць, перш за ўсё, мясцовыя ўлады. Яны ж выконваюць і пэўны сацыяльны заказ грамадства па ўключэнню моладзі ў паўнавартае актыўнае жыццё, ажыццяўленне розных сервісных паслуг. Палітычныя моладзевыя арганізацыі да таго ж належаць і да пэўнага палітычнага спектру, забяспечваючы пры гэтым пераемнасць у развіцці палітычных партый і рухаў, якія час ад часу бяруць калектыўную адказнасць па кіраванню дзяржавамі. Усё тая ж сістэма не дазваляе партыі незалежна ад арыентацыі выйсці за рамкі дэмакратычных абмежаванняў. "Там" палітычныя дзеячы не ўзнікаюць раптам з саўгасаў, а працяглы час здабываюць палітычную вагу. Не дзіўна, што хістанняў у такіх умовах амаль не назіраецца. Вось вам і стабільнасць, за якую змагаліся, змагаюцца і абяцаюць змагацца (дарэчы, толькі гэта) нашыя кіраўнікі.

Палітычны расклад на Беларусі такі, што палітычныя партыі, адлюстроўваючы ідэі значных частак грамадства, прадстаўляюць сапраўды вельмі нязначную яго частку. Моладзевыя грамадска-палітычныя арганізацыі ўвогуле ніхто нават не рэгіструе. "Маладая Грамада" пасля перарэгістрацыі ўсяго толькі грамадскае аб'яднанне (па статуце ж сацыял-дэмакратычная арганізацыя). Іншымі словамі, палітычнае балота — вось крэда сучаснай улады.

Паглядзець жа на "новы парламент" — абрагочашся ды толькі. НЯМА аніводнай партыйнай фракцыі. Усе дэпутаты — незалежныя. Існуюць дэпутацкія групы накшталт "Анты-НАТА", "За аб'яднанне з Расіяй". Выбачайце, за што ж яны там змагаюцца? Відавочна, за што заўгодна, толькі не за стварэнне ўласных дэмакратычных традыцый, справаздачнасць выканаўчай улады, дабрабыт людзей.

Такім чынам, толькі новая хваля заангажаваных маладых людзей пры падтрымцы прафесіяналаў, а не спецыялістаў з дзяржаўзнакавымі (тройкавымі) дыпломамі, у стане карэнным чынам змяніць сітуацыю ў краіне і расставіць прыярытэты згодна з сучаснымі патрабаваннямі грамадства. Дзеля гэтага трэба моладзь не прыціскаць, наадварот, даваць усе магчымасці для станаўлення яе як сапраўднай палітычнай сілы, а не "кучки обанкротившихся оппозиционеров".

*Развважаў Алесь Лужынскі*

## Па сьлядох перапісу

16 лютага — гадавіна першага самастойнага агульнабеларускага перапісу Незалежнай Беларусі. Перапісу, які, нягледзячы на ўвесь скептыцызм, даў вельмі красамоўныя вынікі. Ён выдатна падкрэсьліў глыбіню тае ямы, куды коціцца Беларусь. Разумныя людзі, аналізуючы вынікі перапісу, адразу ўцямяць, чаго хоча беларускі народ, і дзе тое зло, якое трэба выдраць з карэннем. У "Грамадзе" мы прапануўваем вам найбольш цікавыя на наш погляд лічбы.

**Гарадзенцы пачалі вымiраць з 1994**

У 1994 годзе (год, калі да ўлады прыйшоў Лукашэнка) насельніцтва Гарадзенскай вобласьці склала максімальную колькасьць — 1 млн. 210 тысячаў. У 1995 — 1 млн. 208 тыс., у 1997 — 1млн. 198 тыс., 1999 — 1млн. 185,2 тыс. чалавек. Вымiраем...

За 1994–1998 у нашай вобласьці памерла на 24 тысячы людзей больш, чым нарадзілася. Спецыялісты прагназуюць, што ў 2003 годзе ў вобласьці нас будзе толькі 1 млн. 163 тыс. чалавек.

**Гродна — трохсоттысячнік, Ліда — стотысячнік**

У Гродне на момант перапісу пражывала 301600 чалавек. Пры гэтым 167,9 тыс. жыве ў Кастрычніцкім раёне, а 133,7 тыс. — у Ленінскім.

Насельніцтва Ліды складае ўжо 100,7 тыс. чалавек, а Слоніма — 51,7 тысячаў.

**Верцялішкі — самая вялікая вёска**

Верцялішкі Гарадзенскага раёна прызнаныя самай вялікай вёскай вобласьці. Тут жыве 3127 чалавек. Наогул, у вобласьці пяць вёсак, дзе насельніцтва складае больш за 2 тысячы чалавек, акрамя Верцялішак, гэта: Азёры, Жыровічы, Ражанка і Путрышкі.

Аднак у 336 вёсках пражывае толькі 5 і меней чалавек. А яшчэ 78 вёсак і хутароў, наогул, без насельніцтва. Горш толькі ў Віцебскай вобласьці.

**Ці будзе каму вучыцца ў школе?**

У параўнаньні з 1989 годам на 37% (!) стала менш дзетак да пяці гадоў. Асабліва гэта заўважальна па Гродне, Лідзе, Слоніме.

У 1999 годзе колькасьць пенсіянераў у вобласьці амаль на 16% перавысіла колькасьць дзяцей. А тых, каму за 65 гадоў, у параўнаньні з 1989 годам стала больш — цяпер іх 14,3%.

**Мужчыны жывуць на 12 гадоў менш**

У 1998 годзе сярэдняя працягласьць жыцьця ў жанчын вобласьці была 74,6 гадоў. Мужчыны жылі ў сярэднім 62,6 гады. Наогул, сярэдні ўзровень працягласьці жыцьця па вобласьці не змяняецца з 1995 года — 68,5 гадоў.

Беларусаў у вобласьці жыве ні многа ні мала 87 нацыянальнасьцяў. Тытульная нацыя складае 62,3%, палякаў у нас — 24,8%, рускіх — 10%, украінцаў — 1,8%, татараў і літоўцаў — па 0,2%, жыдоў — 0,1%. Беларусаў за 10 год стала на 36 тысячаў больш. Прадстаўнікоў жа іншых нацыянальнасьцяў усё менш і менш: жыдоў на 57,6%, татараў на 12,5%, рускіх на 4,1%, палякаў на 2,2%.

Канкрэтна ў Гродне жыве 56,1% беларусаў, 22,1% палякаў, 17,8% рускіх, 2,7% украінцаў.

**Больш за палову гавораць па-беларуску**

Дома па-беларуску гавораць 635,7 тысячаў жыхароў Гарадзенскай вобласьці, на рускай — 529 тысячаў, 17 тысячаў гавораць па-польску. Наогул, роднай беларускую мову назвалі 72,6% жыхароў. Гэта на 4,5% больш, чым у 1989 годзе.

*Лявон Матук*

*Інфармацыйны бюлетэнь Гродзенскай грамадскай арганізацыі МГ «ГРАМАДА» выходзіць раз у месяц на беларускай мове. Наклад 299 асобнікаў. Пры передруку спасылкі на бюлетэнь неабавязковыя. Друкуецца пры дапамозе ГГА «Ратуша».*

*Адрас для карэспандэнцыі:*
*230003, Гродна-3, а/с 62*
*E-mail:* hramada.news@usa.net